# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 47 (247) | ГОД V | БЕЛАСТОК, 20 ЛІСТАПАДА 1960 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## Пленум Галоўнага Праўлення БГКТ

13 лістапада гэтага года ў Беластоку адбылося II пленарнае пасяджэнне Галоўнага Праўлення БГКТ.

На пленуме, апрача членаў Галоўнага Праўлення, прысутнічалі: прадстаўнік Камісіі па справах нацыянальных меншасцей пры ЦК ПАРП Уладзімір Скшыпчак, прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў Ян Кэндзерскі, кіраўнік аддзела прапаганды КВ ПАРП Валенты Авер, кіраўнік адміністрацыйнага аддзела КВ ПАРП, Уладзіслаў Канстаньчык, прадстаўнікі мясцовых улад і запрошаныя госці.

У дакладзе з якім выступіў на пленуме сакратар Галоўнага Праўлення мгр Уладзімір Юзвюк, ацэньвалася праца Таварыства ў перыядзе ад III З'езду і гаварылася аб неабходнасці актывізацыі працы аддзелаў і паасобных гурткоў арганізацыі. Даклад звярнуў увагу на слабую дзейнасць паасобных аддзелаў у час пасля III З'езду. Таму і намаганні прэзідыума ГП у галіне шырокай актывізацыі вёскі не былі рэалізаваны праўленнямі аддзелаў, якія не змаглі мабілізаваць мясцовы актыў да шырокай дзейнасці.

Пасля даклада ўзнікла вельмі жывая дыскусія, у якой прыняло ўдзел 16 асоб.

Большасць дыскутуючых звяртала ўвагу на ўсё яшчэ слабую дзейнасць Таварыства ў нашым вясковым асяроддзі.

— У вёсцы, — гаварыў Васіль Дзун з Гайнаўкі, — рэдка сустрэнеш актывіста праўлення аддзела Таварыства ці Галоўнага Праўлення.

Вясковыя гурткі неаднойчы існуюць толькі фармальна, не ведаюць, што ім трэба рабіць і канкрэтна ў якім напрамку развіваць сваю дзейнасць.

На пленуме звернута таксама ўвагу на слабую актыўчасць у працы і самых членаў Галоўнага Праўлення.

— Кожны член ГП ці праўлення аддзела Таварыства, — гаварыў прадстаўнік Камісіі па справах нацыянальных меншасцей пры ЦК ПАРП У. Скшыпчак, — абавязаны адчуваць сябе членам праўлення не толькі на яго пасяджэнні, ці сходзе гуртка БГКТ, але на кірмашы, у цягніку, у час гутаркі са сваімі знаёмымі, усюды там, дзе толькі ён знаходзіцца. Толькі аб такім члене можна гаварыць як аб актыўным дзеячы Таварыства.

Дыскутуючыя звярнулі таксама ўвагу на аднабаковасць дзейнасці Таварыства.

Неаднойчы гэтую дзейнасць у вясковым асяроддзі звужваецца да руху мастацкай самадзейнасці, да працы драматычных, харавых ці танцавальных калектываў. Гэта вельмі нядобра. Вясковыя людзі хочуць ведаць як лепш апрацоўваць зямлю, як павысіць ураджайнасць палёў, атрымаць добрыя вынікі ў жывёлагадоўлі. Таварыства не можа абыякава пераходзіць каля ўсіх гэтых спраў. Таму лектары таварыства, спецыялісты розных галін нашага жыцця абавязаны часта наведваць беларускія вёскі, арганізаваць цікавыя гутаркі ў гуртках БГКТ. Толькі ў такім выпадку можна актывізаваць вясковыя гурткі нашага Таварыства і наладзіць больш шчыльнае супрацоўніцтва з беларускім насельніцтвам вёскі.

Пленум прыняў пастанову, якая абавязвае прэзідыум Галоўнага Праўлення да далейшага ўкірункоўвання галоўнага напрамку дзейнасці Таварыства на вёску.

Пастанова накрэслівае таксама канкрэтную праграму дзейнасці прэзідыума ГП і праўленняў аддзелаў у бліжэйшым часе.

Галоўнае Праўленне прыхілілася да просьбы Уладзіміра Станкевіча, які па прычыне дрэннага стану здароўя прасіў звольніць яго з абавязкаў старшыні Галоўнага Праўлення.

Новым старшынёй Галоўнага Праўлення БГКТ выбрана члена прэзідыума ГП — Ліду Бялецкую

На вечары, якую наладжана для членаў Галоўнага Праўлення, былому старшыні — Уладзіміру Станкевічу — за яго дзейнасць у Таварыстве сардэчна падзякавага і ўручана падарункі.

(вб)



## ВОЛАТ РУСКАЙ ЗЯМЛІ

20 лістапада мінае 50 год з дня смерці Льва Талстога.

Ушаноўваючы памяць аб вялікім сыне Расіі, складаем даніну ча[…]еку, які літаратуру сваёй роднай краіны ўчыніў уласнасцю цэлага свету.

Дагэтуль зарэгістравана, што за межамі СССР выйшла ў друку 6.155 перакладаў мастацкіх твораў Талстога. Выдаваўся ён там на 48 мовах. З раманаў Талстога за граніцай выдавалася найбольш «Анна Карэніна» — на 3[…] мовах. Эпапея «Вайна і мір» перакладалася ва ўсіх краінах Еўропы, ЗША і шматлікіх краінах Усходу. Зарэгістравана пераклады рамана на 37 мовах. Па дадзеных Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, творы Льва Талстога стаяць на першым месцы па ліку выданняў і перакладаў як на Захадзе, так і на Ўсходзе.

Пераканаўчыя факты.

Па вырашэнні Ўсясветнага Савета Міру, ад 17 да 27 лістапада г. г. у цэлым свеце адзначаецца 50-годдзе з дня смерці Льва Талстога.

Хай у гэтыя дні нашае знаёмства з Талстым яшчэ больш пашырыцца, хай яго творы знойдуцца ў кожнай хаце, хай захапляецца ім усё шырэйшы круг людзей.

Горкі ў сваіх успамінах прыводзіць словы Леніна аб Талстым: «Якая глыба, га? Які мацёры чалавечышча! Вось гэта, бацюхна, мастак..»

Такога шчырага захаплення ад прачытаных твораў пісьменніка жадаем нашым чытачам.



Ілюстрацыя Д. Шмарынава да рамана Л. Талстога «Вайна і мір».

# ХАТЫ

якія ў камбінаце атрымалі працу, сталіся кваліфікаванымі рабочымі. Але цікавей усяго паглядзець камбінат уласнымі вачыма ды пазнаёміцца з цыклам яго прадукцыі. А ветлівыя інжынеры вытлумачаць усё нам падрабязна. (здымак 2).

А як жа робіцца газета, якая прыносіць нам цікавыя весткі з ваяводства, краіны і шырокага свету. Калі ласка, зойдзем у Беластоцкую друкарню. Майстар Граеўскі пакажа нам усе складаныя друкарскія машыны, растлумачыць нам як яны працуюць. (здымак 3). Мабыць ніхто з нас нават не ўяўляе, што друк газеты аж так складаная справа.





Шмат цікавых прадпрыемстваў у Беластоку, аб якіх дагэтуль мы яшчэ і зусім не чулі.

А вечарам яскравы свет неонаў вітае нас пры ўваходзе да Беластоцкага тэатра ім. А. Венгеркі. На сцэне тэатра сёння «Жанчына ў цяжкай сітуацыі». Пасля спектакля знаёмімся з акцёрамі беластоцкай сцэны, з іх цяжкай працай за кулісамі тэатра. З намі вельмі ахвотна гаворыць актрыса Эльжбета Свенціцка, якая ў сённяшнім спектаклі выконвала галоўную ролю. (здымак 4).

Гэта сапраўды незабыўныя хвіліны ў нашым жыцці. І таму, калі позним вечарам вяртаемся дамоў, кожны з нас у засяроджанні перажывае ўсё пабачанае.

Выходзіць, марым мы аб далёкім, а свайго блізкага не ведаем.

Больш бы такіх экскурсій.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**
**фота — «ГРАМАДА»**

# ПАЧАЛІСЯ ЗАНЯТКІ

## у сетцы партыйнай адукацыі

У большасці партыйных арганізацый на вёсцы адбылася першая лекцыя, якая была прысвечана праблемам XV Сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

Справа захавання міру ва ўсім свеце моцна хвалюе ўсіх людзей. Вось таму амаль усюды пасля выступлення прапагандыстаў узнікла ажыўленая дыскусія. Слухачы — члены партыі і беспартыйныя — дзеляцца сваімі думкамі, горача адабраюць высокародную місію М. С. Хрушчова, Ул. Гамулкі і іншых прадстаўнікоў сацыялістычных краін. Іх прапановы па раззбраенню, па ліквідацыі каланіяльнай сістэмы, аб рэарганізацыі кіруючых органаў ААН і іншыя, сустракаюцца з падтрымкай самых шырокіх колаў слухачоў.

У Сакольскім павеце партвучоба распачалася ўжо на ўсіх 44 курсах. У параўнанні з мінулым годам сёлета падбор выкладчыкаў выдатна палепшыўся. 80 працэнтаў усіх выкладчыкаў складаюць настаўнікі.

**Сухінічы.** Вечарэе. Нягледзячы на дажджлівую пагоду, сабраліся ў школе члены партыі і члены Саюза сялянскай моладзі. Кіраўнік школы Чэслаў Ляшук цікава расказвае аб выступленнях кіраўнікоў савецкай, польскай і іншых дэлегацый на XV Сесіі ААН. Усе ўважліва слухаюць выкладчыка. Пасля яго выступлення разгортваецца свабодная гутарка. Шасцідзесяцігадовы Антон Семяновіч, забіраючы голас, прыпомніў часы, калі маладая савецкая краіна мужна змагалася супраць унутраных і замежных ворагаў. Язэп Цілюлька гаварыў аб эксплуатацыі каланіяльных народаў і ўспомніў аб тым, як за гады санацыйнай Польшчы многія аднавяскоўцы працавалі парабкамі ў суседняй вёсцы Гарчакі, у памешчыка Нятупскага.

У Крынках, у тэрановай партыйнай арганізацыі, выкладчыкам партыйнай адукацыі з'яўляецца лекар Збігнеў Нізінскі. Заняткі вядзе ён на высокім ідэйным узроўні. Слухачоў там 24 асобы.

У гэтай партыйнай арганізацыі заняткі адбываюцца два разы ў месяц. Тэматыка партвучобы — гісторыя польскага рабочага руху. Таварыш Збігнеў Нізінскі правёў ужо на гэтую тэму тры лекцыі.

Таксама добра прайшлі першыя заняткі ў партыйнай арганізацыі пры ПСС-е ў Саколцы, дзе выкладчыкам з'яўляецца Уладзімір Аніська — працаўнік гэтай установы.

**М. Х.**

# СУПОЛЬНЫМІ СІЛАМІ

На Бельшчыне найбольш каштоўныя грамадскія чыны праводзяцца ў Крывой, Райках, Сапешыне, Патоках і Карпах. У Крывой і Райках дабягаюць канца працы пры будове святліц. У гэтых будовах 30 прац. коштаў унеслі сяляне, выконваючы ўсе нефаховыя работы. 70 прац. коштаў асыгнуе на будову дзяржава.

У Сапешыне, Патоках і Карпах будуюцца гаспадарскім спосабам вялікія будынкі. У гэтых будынках будзе святліца, чытальная зала, памяшканне для 4-класнай школы і памяшканне для настаўніка. Кошт будовы складае 165 тыс. злоты.

У гэтых трох вёсках сяляне праяўляюць асаблівую ахвярнасць падчас працы ў грамадскім чыне. Яны таксама ўнеслі свае грашовыя ўклады. Да заканчэння будовы вартасць грамадскіх чынаў значна перавысіць 30 прац. коштаў будовы.

**М. Х.**

З жыцця БГКТ

# КАСТРЫЧНІЦКІ ВЕЧАР

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку наладзіў вечар у гонар 43 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай Рэвалюцыі. У вечары прынялі ўдзел члены беларускага калектыву песні і танца, актыў таварыства і запрошаныя госці. Аб гістарычным значэнні Вялікага Кастрычніка гаварыў у сваім цікавым дакладзе сакратар ГП БГКТ мгр Уладзімір Юзвюк.

Прысутныя на вечары з зацікаўленнем выслухалі выступленне тав. Філіпа Кізевіча — удзельніка Кастрычніцкай Рэвалюцыі. Ён успамінаў рэвалюцыйныя падзеі ў Петраградзе, у якім знаходзіўся ў студэнцкія гады. Ён вёў свой расказ вельмі проста і даходліва.

Вечар у гонар Кастрычніцкай Рэвалюцыі прайшоў вельмі ўдала.

**Кастусь Хлябіч**

# ІМ РОДДЗІ

Бельшчыны. У Рыбалах пачала яна працу 5 год таму назад, зараз пасля заканчэння Бельскага беларускага ліцэя. Гэтая маладая жыццерадасная настаўніца выкладае гісторыю, якая з'яўляецца яе любімым прадметам. Сяброўка Зінкевіч любіць школьнікаў, а школьнікі яе. Разам з іншымі настаўнікамі прымае дзейсны ўдзел у пазашкольным жыцці вучняў. Перадусім займаецца са школьным мастацкім гуртком у сваёй школе, кіруе працай гарцэрскай арганізацыі. Дзеля папаўнення сваіх ведаў з галіны беларускай мовы і літаратуры яна паступіла на беларускую філалогію ЗНС у Беластоку і напісала ўжо дыпломную працу на тэму — «Вёска ў дакастрычніцкай творчасці Якуба Коласа». Оля Зінкевіч выкладае таксама беларускую мову наймалодшым сваім выхаванцам — у I і II класах. Яна зжылася са сваім асяроддзем, якое ёй сэрцу так вельмі блізкае, здабыла давер і пашану сярод бацькоў сваіх вучняў і не хацела б ніколі расстацца з Рыбаламі, з вёскай, якая стала для яе роднай і дарагой.

У рыбалоўскай школе вучаць яшчэ Аляксандр Філіманюк і Тэкля Ліборская. А. Філіманюк з'яўляецца наймалодшым настаўнікам сярод свайго калектыву. Выпускнік Бельскага беларускага ліцэя. Вучыць толькі другі год. Ён выкладае біялогію, геаграфію і вядзе ўрокі па фізкультуры. Пад яго кіраўніцтвам вучні працуюць у біялагічным гуртку, а таксама шмат часу займаюцца фізкультурай.

Т. Ліборская працуе найдаўжэй у рыбалоўскай школе і выкладае польскую мову. Яна, як старэйшая асоба, маючы найбольш вопыту, служыць заўсёды добрымі парадамі сваім сябрам. Яе ўспаміны аб лёсе рыбалоўскай школы ў час гітлераўскай акупацыі слухаюць вучні з вялікім зацікаўленнем і са страхам ад іх жудаснага зместу. Школа ў час акупацыі была спалена раённага аддзела гестапа і катоўняй камуністаў і партызанскіх сувязных. Забойства гітлераўцамі мясцовага камуніста Юрыя Карчэўскага на школьнай плошчы з'яўляецца жудаснай і смутнай картай у гісторыі гэтай школы. Аб гэтай падзеі ніколі тут не забудуць.

Настаўніцкі калектыў у Рыбалах жыве самымі важнымі патрэбамі школы. Яго сяброўскія адносіны, каардынацыя працы, узаемнае дзяленне вопытам давалі і даюць найлепшыя вынікі ў дыдактычна-выхаваўчай працы. Намаганнямі гэтага калектыву ў Рыбалах арганізавана курсашколу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, якая налічвае зараз 25 удзельнікаў, сярод якіх 13 дзяўчын. Рыбалоўская школа пашырае сярод моладзі навыкі культурнага правядзення часу ў форме арганізавання вечарын, слухання радыё, дыскусій.

Можа не ўсё ўдалося сказаць аб рыбалоўскіх настаўніках, але тое, што ўжо сказана кідае сноп святла на іх высакародную дзейнасць, якая з'яўляецца так вельмі неабходнай на вёсцы.

**М. КУРАШ**

# Вечар сучаснага мастацтва

4 лістапада г. г. члены БГКТ у Варшаве сабраліся на гутарку аб абстракцыйным мастацтве, якую правёў Янка Анісэровіч. У зале аддзела была выстаўлена больш трыццаці работ мастака. Былі тут работы з перыяду студэнцкіх год творчасці Анісэровіча, якія напісаны паводле рэалістычных прынцыпаў мастацтва, і работы з апошніх год творчасці мастака, дзе ён выкарыстоўвае ўсе магчымыя прыёмы і спосабы абстракцыйнага мастацтва.

Гутарка была праведзена цікава і на ўзроўні, даступным для слухачоў. Асабліва прыемнае ўражанне зрабілі карціны з апошніх год творчасці нашага паэта - мастака. Зацікаўленне выклікалі і рэалістычныя работы Я. Анісэровіча.

**Альф.**

# Для пацярпеўшых ад паводкі

У некаторых вёсках на Сакольшчыне сяляне збіраюць збожжа і бульбу для гаспадароў з тых аколіц нашай краіны, якія наведала ў гэтым годзе вялікая паводка. Невялікая вёсачка Хмялеўшчына сабрала 185 кг. бульбы і 168 кг. жыта.

Зборка жыта і бульбы для пацярпеўшых ад паводкі адбылася ў Вялікай Зубрыцы, Мінкоўцах, Сухінічах і Бабіках. У Бабіках сяляне сабралі 8 тон бульбы і 6 тон жыта. За тое, што спачуваюць сялянe пакрыўджаным стыхіяй гаспадарам, належыцца шчырая падзяка.

**М. Х.**

 

# Татуіроўка





Татуіроўка выводзіцца з Палінезійскіх астравоў, дзе існуе як абычай рэлігійны, грамадскі і ўпрыгожваючы.

Ад экзатычных народаў татуіроўка перайшла і ў Еўропу, дзе распаўсюдзілася асабліва сярод матросаў і арыштантаў. Доўгія месяцы, праводзімыя на караблях без кампаніі жанчын садзейнічалі распаўсюджванню татуіроўкі сярод матросаў. Матросы з асаблівым замілаваннем татуіруюць сабе розныя прадметы, звязаныя з караблём, з морам, а таксама голыя жанчыны, прабітыя стралой сэрцы.

Ці татуіроўка ўпрыгожвае, ці наадварот. Вядомы вельмі прыгожыя каляровыя татуіроўкі. Значна часцей аднак татуіроўкі (у еўрапейскіх умовах) з'яўляюцца ерундой, і многія, якія зраб лі яе некалі пад уплывам дурасці, потым моцна шкадуюць.

Вядомая гісторыя Яна Берандо — былога жаўнера рэвалюцыйнай Францыі, напалеонаўскага маршала, а ад 1818 г. караля Швецыі. Калі ён быў ужо ў старэйшым узросце, захварэў. На руцэ знайшлася скула. Праз некалькі дзён не хацеў дапусціць да сябе лекара. Але калі боль зрабіўся немагчымым, згадзіўся на аперацыю. І вось здзіўлены хірург прачытаў на каралеўскай руцэ вытатуіраваны надпіс «Смерць каралям», які паходзіў з часоў рэвалюцыйнай дзейнасці пазнейшага цара.

Як робіцца татуіроўка? Пры дапамозе наколвання скуры іголкамі ўмочанымі ў фарбу. Наколваецца паводле рысунка, папярэдне зробленага на скуры. Зразумела, наколванне найчасцей адбываецца ў неадпаведных санітарных умовах і вельмі часта татуіраваны пры гэтым бывае заражаны рознымі хваробамі: сыфілісам, сухотамі, барадаўкамі.

Пазбыцца татуіроўкі вельмі цяжка, дакладней гаворачы — немагчыма. Можна выразаць кавалкі вытатуіраванай скуры, але тады на месцы даўнейшай татуіроўкі будзе чырвоная пляма. Спосабаў, як «выцягнуць» запушчаную ў скуру фарбу — няма.

**У Японіі найпрыгажэйшыя нават плечы без татуіроўкі, нікога не захапляюць. Нават жанчыны там паддаюцца гэтаму ўпрыгожванню. Другая справа, што на такую, як на здымках, татуіроўку патрабуюцца некалькі тыдняў працы і нямала грошай, тым больш калі яе выконвае майстар па спецыяльнасці.**

## Карабель у палёце



Летам 1957 года на Волзе з'явілася імклівае прыгожае судна на падводных крылах — «Ракета» — папярэднік суднаў, пра якія можна сказаць, што яны не плывуць а ляцяць над воднай паверхняй.

У мінулым годзе завод «Чырвонае Сормава» выпусціў значна буйнейшы і быстраходны цеплаход новага тыпу. Падобныя судна ствараюцца і ў іншых краінах. Нядаўна авіяцыйная карпарацыя Груман (ЗША) паведаміла аб магчымасці пабудовы акіянскіх крылатых суднаў.

На фота паказан праект атамнага лайнера з падводнымі крыламі, водазмяшчэннем 1000 тон. Карабель будзе развіваць хуткасць да 120 кіламетраў у гадзіну.

### АГНЯВОЕ КАП'Ё РЭЖА БЕТОН

Часта будаўнікам даводзіцца разбіраць старыя бетонныя сцены, фундаменты, часткі плацін. Добра, калі сцяну ці фундамент можна ўзарваць. А што рабіць, калі ўзарваць нельга? Бетон жа надта цвёрды і не рэжацца. Прыходзіцца рабіць гэта пры дапамозе пнеўматычнага малатка, але гэта надта марудна і доўга.

Цяпер у Францыі вынайдзен «вогненны нож», які рэжа бетон, як масла ці воск. Гэты інструмент складаецца з ручкі - змешвацеля, куды пад ціскам паступае кісларод і сумесь алюмініевага парашку з жалезным. Адсюль сумесь з сілай вылятае па доўгай стальной трубе і запальваецца. Узнікае язык такога гарачага агню, што ад яго бетон разбураецца і ў ім утвараецца шчыліна. Рэзчык павінен знаходзіцца на пэўнай адлегласці ад страшнага полымя.

Вогненным нажом, ці, як яго яшчэ называюць, кап'ём, ужо рабіліся разрэзы глыбінёй да 3,5 метра.

## МОДА
### асенне-зімовыя плашчы



**Элегантны плашч з нейлонавага міся з шырокімі рукавамі.**



**Вельмі модны шырокі плашч - кімона з мяккай воўны. Вялікі варатнік.**



**Элегантны плашч са штучнага футра. Буфястыя рукавы.**

Толькі для закаханых




Так сталася, што ў мяне — незамужняй дзяўчыны ёсць дачка. Ёй ужо тры гады. Яна жыве ў маёй мамы на вёсцы, а я жыву і працую ў Беластоку. Аб тым, што ў мяне ёсць Анечка не ведаюць ні мае каляжанкі, ні калегі.

Апошнім часам са мной падружыў Алёша. Прапануе мне выйсці за яго замуж. Ён мне вельмі падабаецца. Але што зрабіць: сказаць яму ці не, што ў мяне ёсць дачка. Баюся, што калі я прызнаюся, ён мяне пакіне, а калі не прызнаюся і выду замуж за яго, паступлю вельмі несумленна.

Як зрабіць каб, як кажуць, і «воўк быў сыты і каза цэла?»

**А ці ты верыш у тое, што пражывеш з Алёшай усё жыццё і ён не даведаецца, раней ці пазней, праўды. І што тады? Будзе мець поўную рацыю, калі кіне табе ў вочы словы «ты ашукала мяне». Хіба што вырачашся сваёй дачанькі і ў такім выпадку і я, і ўсе людзі назавуць цябе нягоднай, нізка ўпаўшай жанчынай. Ці пакіне цябе Алёша даведаўшыся праўды? На гэта я табе ад сэрца скажу: калі з-за гэтага ён цябе пакіне, будзе раз — неразумны і два — тым лепш для цябе, значыць не кахаў ён цябе. Але што варажыць на двое. Хачу верыць, што Алёша чалавек новых часоў і да гэтых спраў падыходзіць разумна і што як ты так і твая Аня будзеце яму сваімі і самымі блізкімі асобамі.**

## НОВЫЯ ФІЛЬМЫ

# „ЖОЛНЕЖЭ"

**Амерыканская прадукцыя**
**Рэжысёр В. А. Вельман.**

Да выязджаючага на фронт атрада пяхоты, якім камандуе паручнік Валькэр прылучаецца ваенны карэспандэнт Пыле. Першы начлег атрада недалёка лініі фронту. Салдаты жартуюць і мараць аб сваіх дзяўчынах, якія засталіся ў далёкай айчыне. Раніцай першая атака нямецкага самалёта. Радавы Гендэрсон ужо ніколі не атрымае лісту ад сваёй дзяўчыны.



Нявопытныя ў ваенных справах амерыканскія салдаты прайгрываюць. Але прайшоў яшчэ год часу і гэтыя ж салдаты вызваляюць Сыцылію і паспяхова вядуць баі ў Італіі.

Атрад пяхоты падыходзіць пад славутую цвярдыню гітлераўцаў — манастыр у Монтэ - Касына.

А што далей? Паглядзіце абавязкова, калі фільм будзе дэманстравацца ў вашай аколіцы. Фільм ужо увайшоў на экраны кіно Беласточчыны. (бв)



 

